Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 46 (5377)
Субота, 13 красавіка

З дакладных крыніц

## Рэформа дае больш самастойнасці



***Адчувальныя змены адбываюцца ва ўсіх сферах адукацыйнай дзейнасці. Многія з гэтых новаўвядзенняў патрабуюць тлумачэння з боку кампетэнтных органаў, і ў першую чаргу - работнікаў Міністэрства адукацыі. Сёння "Настаўніцкая газета" адкрывае рубрыку "З дакладных крыніц" гутаркай з намеснікам Міністра адукацыі Казімірам Сцяпанавічам Фарыно, які адказвае на пытанні нашых чытачоў.***

**- Ужо блізіцца да завяршэння навучальны год, а хваляванне выпускнікоў школ толькі ўзрастае - хутка выпускныя экзамены. Ці будзе іх колькасць сёлета скарочана?**

– Скажу шчыра, гэтае пытанне даўно турбавала і работнікаў Міністэрства адукацыі. І небеспадстаўна. Як вядома, для выпускнікоў сярэдніх агульнаадукацыйных навучальных устаноў лета заўсёды было самай напружанай парой, бо ў чэрвені–ліпені трэба здаваць шэсць выпускных і тры, а то і пяць уступных экзаменаў у сярэднія спецыяльныя альбо вышэйшыя навучальныя ўстановы. Мала таго, многія выпускнікі яшчэ асобна праходзяць тэсціраванне. Нагрузка, як бачыце, перавышае ўсе магчымыя нормы. Маладыя людзі адчуваюць вялікае псіхалагічнае напружанне, пастаянна знаходзяцца ў стрэсавым стане, што, безумоўна, дрэнна адбіваецца на іх здароўі. Не менш перажываюць за сваіх дзяцей і бацькі.

Каб зняць напружанне выпускной кампаніі, Міністэрствам адукацыі было прынята рашэнне аб скарачэнні колькасці экзаменаў за курс сярэдняй школы. Сёлета трэба будзе здаваць толькі чатыры. Два з'яўляюцца абавязковымі: матэматыка (пісьмова), беларуская мова альбо руская мова па выбару навучэнца (пісьмова). Астатнія два навучэнец можа выбраць сам. Іх пералік будзе апублікаваны ў "Настаўніцкай газеце".

**- Казімір Сцяпанавіч, скажыце, калі ласка, ці пяройдуць сёлета на пяцідзённы вучэбны тыдзень усе сярэднія школы рэспублікі?**

– З 1 верасня 2002 года ўсе агульнаадукацыйныя школы будуць пераведзены ў рэжым пяцідзённага вучэбнага і шасцідзённага рабочага тыдня. Каб пастаўленая задача была выканана, Міністэрствам адукацыі ўжо падрыхтаваны варыятыўныя вучэбныя планы. Яны былі ўзгоднены з Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам аховы здароўя. Галоўнымі асаблівасцямі новых вучэбных планаў я б назваў, дакладнае вызначэнне колькасці гадзін на рэалізацыю дзяржаўнага кампанента адукацыі з улікам узроставых асаблівасцей дзяцей. А таксама пашырэнне школьнага кампанента адукацыі, што дазволіць педагагічным саветам школ размяркоўваць вучэбныя гадзіны з улікам індывідуальных асаблівасцей арганізацыі вучэбна–выхаваўчага працэсу навучальнай установы (маецца на ўвазе яе профіль, паглыбленне навучання і г.д.). Акрамя таго, варыятыўныя планы нарміруюць тыднёвую вучэбную нагрузку, якая даводзіцца на аднаго школьніка ў залежнасці ад яго ўзросту і тыпу самой навучальнай установы.

Адметна, што навучальны год будзе прадоўжаны на два тыдні. Гэта забяспечыць выкананне вучэбных планаў і праграм у поўным аб'ёме, а таксама захавае ўзровень якасці адукацыі на адпаведным узроўні.

**- Якія перавагі, на ваш погляд, мае дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў? Ці будзе яна ўведзена ва ўсіх школах?**

– З новага навучальнага года дзесяцібальная ацэнка ведаў будзе ўкаранёна ва ўсіх агульнаадукацыйных школах. Яна, бясспрэчна, дазволіць практычна рэалізаваць прынцып гуманізацыі ўзаемаадносін удзельнікаў вучэбна-выхаваўчага працэсу, павысіць аб'ектыўнасць ацэнкі і якасць вучэбна–пазнаваўчай дзейнасці дзяцей, забяспечыць сацыяльную абароненасць асобы вучня, стварыць інварыянтную ацэначную шкалу, якую можна прымяніць да ўмоў рознаўзроўневага навучання.

**- Як вы мяркуеце, ці павінна сёння школа зарабляць грошы?**

– Нашы школы маюць права гэтым не займацца. Мы не можам іх абавязваць. Але само жыццё дыктуе свае ўмовы. Бюджэтнага фінансавання ледзьве хапае на заробак настаўнікам і аплату камунальных паслуг. А матэрыяльную базу абнавіць трэба. Часта можна ўбачыць у школе безнадзейна састарэлыя абсталяванне, мэблю, лабараторныя і практычныя прыборы, вучэбна–наглядныя дапаможнікі. У пошуку выйсця нашы кіраўнікі выбіраюць самы лёгкі шлях: збіраюць грошы з бацькоў на фіранкі, карты і нават на крэйду. Але ж гэтым сітуацыю не ўратуеш і бацькоў, такім чынам, пакрыўдзіш. Таму выхад адзін — трэба самім школам зарабляць грошы. І дадатковы канал фінансавання я бачу ў аказанні школамі якасных платных адукацыйных паслуг. Дарэчы, Міністэрства адукацыі ўжо распрацавала іх пералік і ўзгадніла з іншымі структурамі палажэнне аб парадку прадастаўлення гэтых паслуг.

Хачу засцерагчы нашых кіраўнікоў навучальных устаноў ад перагібаў. Да новай справы трэба ставіцца ўдумліва і адказна. І пры гэтым мець на ўвазе, што са сродкаў бюджэту забяспечваецца фінансаванне толькі дзяржаўнага і школьнага кампанента вучэбнага плана, а тое навучанне, якое прапаноўваецца звыш яго, па зацверджаных праграмах і ва ўстаноўленым парадку будзе лічыцца ўжо дадатковай платнай паслугай.

Яшчэ дадаў бы, што прапанаваныя Міністэрствам адукацыі новаўвядзенні шырока абмяркоўваюцца ў педагагічным асяроддзі. З гэтай мэтай кіраўнікі міністэрства сустракаюцца з педагогамі, дырэктарамі школ, кіраўнікамі раённых аддзелаў адукацыі ўсіх рэгіёнаў. Адметна, што мы знаходзім там поўнае паразуменне і падтрымку інавацыйнай дзейнасці нашага міністэрства.

Далейшыя яе кірункі будуць азначаны ў час Рэспубліканскай нарады кіраўнікоў раённых аддзелаў адукацыі і упраўленняў адукацыі аблвыканкамаў па праблемах мадэрнізацыі сістэмы адукацыі ў новым навучальным годзе.

**Гутарыла Ала КЛЮЙКО.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Рэпартаж

## З дыпламантаў – у студэнты?

***У Мінску на базе прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 55 прайшоў рэспубліканскі тур алімпіяды па рускай мове і літаратуры. Яго ўдзельнікамі сталі 35 навучэнцаў з 28 прафтэхустаноў рэспублікі, а таксама... супрацоўнікі Пасольства Расіі ў Беларусі. Яны, праўда, выступілі на гэтым мерапрыемстве ў ролі мецэнатаў.***

У інтэрв'ю нашай газеце саветнік расійскага пасольства Уладзімір Трутнеў патлумачыў, што кірункі дзейнасці ў адукацыйнай сферы абедзвюх краін былі азначаны яшчэ на сумесным пасяджэнні калегіі міністэрстваў адукацыі Беларусі і Расіі. На гэтай сустрэчы, як вядома, быў узяты курс на уніфікацыю расійскай і беларускай адукацыі і стварэнне адзінай адукацыйнай прасторы. У рамках гэтых пагадненняў ужо распачалося цеснае супрацоўніцтва Маскоўскага Камітэта па адукацыі і Камітэта па адукацыі і справах моладзі Мінскага гарвыканкама.

Уладзімір Мікалаевіч заначыў, што гэтыя дзелавыя стасункі пачаліся з прыемнай навіны для мінчан. У адрас навучальных устаноў беларускай сталіцы ўжо дастаўлены гуманітарны груз з Расіі. Гэта вучэбная і вучэбна–метадычная літаратура па рускай мове і літаратуры. А на алімпіядзе расійскі бок падараваў камплекты відэаматэрыялаў па гэтых прадметах усім камандам удзельнікаў алімпіяды.

Але гэта было ўжо ў фінальнай частцы спаборніцтва.

А пачалося яно яшчэ 2 красавіка, у дзень яднання народаў Беларусі і Расіі, што мела свой знамянальны адбітак. На алімпіяду ж з'ехаліся лепшыя знаўцы рускай мовы і літаратуры, якіх вылучыла на конкурс беларуская прафтэхшкола.

У сваім каментары галоўны інспектар упраўлення прафесійна–тэхнічнай адукацыі Міністэрства адукацыі Галіна Гладкая расказала, што рэспубліканскаму туру алімпіяды папярэднічалі два этапы адбору – спачатку ў самой навучальнай установе, а потым – на абласным узроўні. Такім чынам, паспаборнічаць у веданні рускай мовы і літаратуры маглі ўсе, хто пажадае. А ў сталіцу прыбылі каманды, сфарміраваныя ўжо толькі з самых падрыхтаваных.

Галіна Уладзіміраўна заначыла, што асноўную нагрузку ў арганізацыі і фінансаванні мерапрыемства такога ўзроўню ўзяло на сябе Міністэрства адукацыі. Распрацоўкай заданняў алімпіяды займаўся Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі і непасрэдна аддзел метадычнага забеспячэння агульнай сярэдняй адукацыі на чале з яго начальнікам Галінай Яначкінай.

Канкурсантам былі прапанаваны тры заданні: дыктоўка, літаратурна–лінгвістычная віктарына і чытанне на памяць. Больш падрабязна аб конкурсных іспытах можна было даведацца ў самой Галіны Станіславаўны, якая, дарэчы, была і членам журы.

Па яе словах, дыктант можна аднесці да сярэдняй групы складанасці. Ён ацэньваўся згодна з "Часовымі нормамі ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў агульнаадукацыйных школ". Амаль усе навучэнцы напісалі яго на даволі высокім узроўні. Што тычыцца літаратурна–лінгвістычнай віктарыны, дык яна складалася з пытанняў па рускай мове і літаратуры ў межах дзеючых вучэбных праграм. Аднак некаторыя пытанні мелі алімпіядны характар і былі разлічаны на агульную эрудыцыю навучэнцаў, кемлівасць і творчасць.

Кожнае заданне, зазначыла Галіна Станіславаўна, ацэньвалася згодна з яго зместам і насычанасцю. Гэта значыць, што арфаграфію ў разлік журы не брала, а ўлічвала толькі ўзровень ведаў.

Але, мажліва, самым захапляльным стаў апошні этап алімпіяды – чытанне напамяць прозы або паэзіі. Канкурсанты нагадвалі абітурыентаў тэатральных устаноў і вельмі імкнуліся да артыстызму. І не выпадкова. Дыкцыя, інтанацыя, выразнасць і эмацыянальнасць былі асноўнымі крытэрыямі ацэнкі гэтага конкурсу.

Дарэчы будзе сказаць, што не толькі распрацоўка крытэрыяў ацэнкі алімпіядных заданняў, ажыццяўленне іх праверкі былі ўскладзены на журы конкурсу. Яго старшыня, намеснік дэкана філалагічнага факультэта БДУ, дацэнт кафедры рускай мовы, кандыдат філалагічных навук Алена Яўгенаўна Долбік разам з яшчэ чатырма членамі журы так арганізавалі сваю работу, што ў конкурсе панавала поўная галоснасць і адкрытасць. Пасля кожнага этапа спаборніцтва для канкурсантаў і іх выкладчыкаў праводзіўся падрабязны аналіз вынікаў.

А ўжо канчатковыя былі падведзены ў апошні дзень алімпіяды. Роўных Юлі Коцікавай не было! Навучэнка Мінскага прафесійна–тэхнічнага каледжа электронікі была лепшай на ўсіх этапах і атрымала дыплом І ступені – самую высокую ўзнагароду. Дыпламантамі сталі таксама Аляксандр Зеляноў з Баранавіцкага прафесійнага ліцэя машынабудавання, Дзіяна Жукоўская з Магілёўскага прафесійнага ліцэя № 1, Наталля Аладзьіна з Мінскага прафесійна–тэхнічнага каледжа сферы абслугоўвання, Ксенія Зевакова з Магілёўскага эканамічнага прафесійна–тэхнічнага каледжа, Маргарыта Чарняўская з Віцебскага дзяржаўнага прафесійна–тэхнічнага каледжа. Разам з пераможцамі ўзнагароды атрымалі і іх педагогі.

Хто не атрымаў дыплома, набыў новыя уражанні. Дзеля гэта пастаралася Мінскае ПТВ № 55.

Навучэнцы сталічнай установы клапатліва апякалі сваіх гасцей: канцэрты, прагулкі, дыскатэкі надоўга запомняцца ўсім.

– Мы атрымалі столькі ўзнагарод, што хопіць на ўсіх, – смяецца кіраўнік брэсцкай каманды Наталля Іосіфаўна Шумская, загадчык кабінета прадметаў гуманітарнага цыкла абласнога вучэбна-метадычнага цэнтра прафесійнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

Мы яшчэ раз упэўніліся, што такія алімпіяды вельмі патрэбны. Яны не толькі павышаюць прафесійны ўзровень выкладання агульнаадукацыйных прадметаў, а ўвогуле падымаюць імідж нашай сістэмы. Нездарма некаторыя ВНУ ўжо ўлічваюць алімпіяды ПТНУ ў правілах прыёму і прадастаўляюць ільготы нашым дыпламантам пры паступленні.

Мажліва, і сённяшнія пераможцы ў хуткім часе стануць студэнтамі.

**Ала КЛЮЙКО.**

НА ЗДЫМКУ: шчаслівыя пераможцы рэспубліканскай алімпіяды па рускай мове і літаратуры. У цэнтры – уладальніца дыплома І ступені Юлія Коцікава.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**





Фота Юрыя БОНДАРАВА.

## Наш "голас гімназіі"

У Людмілы Аляксандраўны Мешчараковай, намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце Мінскай педагагічнай гімназіі №3, сёння – юбілей.

Больш за трыццаць гадоў гэтая прыгожая, добрая, энергічная, незвычайна таленавітая жанчына прысвяціла бескарыслівому служэнню дзецям. Працавітасць, адказнасць і любоў да дзяцей у Людмілы Аляксандраўны ад бацькі – Аляксандра Апанасавіча, які шмат гадоў працаваў настаўнікам геаграфіі сярэдняй школы №7 Оршы.

Нарадзілася Людміла Мешчаракова ў Чыцінскай вобласці. Працавала ў Расіі, у Манголіі, у Германіі і на Беларусі. Была піянерважатай, бібліятэкарам, настаўнікам, намеснікам дырэктара школы.

Найбольш ярка педагагічны талент Людмілы Аляксандраўны праявіўся на ўроках гісторыі і ў арганізацыі выхаваўчай работы з вучнямі. Яе ўрокі – гэта новыя тэхналогіі, пастаянны пошук, творчасць, гэта высокі ўзровень ведаў і уменняў вучняў.

Школа Мешчараковай – гэта школа дэмакратыі і лідэрства, ініцыятывы і творчасці; гэта клубы "Экалогія чалавека", "Дэбаты", "Ініцыятыва"; гэта дзіцячая рэспубліка "Антарыс"; гэта яркія і незабыўныя школьныя святы, конкурсы, паходы і экскурсіі, сустрэчы і задушэўныя гутаркі.

Людміла Аляксандраўна ўмее не толькі зразумець, арганізаваць і натхніць дзяцей, яна ўмее разам з імі зрабіць жыццё цікавым, напоўненым дабром і творчасцю.

Яна заўсёды адкрытая да ўсяго новага, заўсёды ў акружэнні маладых настаўнікаў. Дзеці называюць яе "голас гімназіі" і ўдзячныя ёй за яркія, непаўторныя школьныя гады, за падараваную радасць узаемін і творчасці, за магчымасць праявіць сябе, зрабіць свой выбар, выказаць сваё меркаванне і пазіцыю.

Штодзённая праца Людмілы Аляксандраўны – лепшы ўзор для пераймання гімназістам – будучым настаўнікам. За адданасць сваёй прафесіі яна мае вышэйшую ўзнагароду – вялікую і шчырую дзіцячую любоў.

З юбілеем Вас, Людміла Аляксандраўна! Здароўя Вам, шчасця і радасці, новых поспехаў і здзяйсненняў!!!

**Вашы вучні і калегі.**

## Выплаты пачаліся

***Па стану на 8 красавіка, як патлумачыў начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення адукацыі Уладзімір Антонавіч Гаўрон, пачалася выплата заработнай платы ў чатырох раёнах - Гродзенскім, Лідскім, Дзятлаўскім і Карэліцкім. Запазычанасць па іншых раёнах, калі лічыць з 2 красавіка, складае 1 мільярд і 8 мільёнаў.***

Праблемы з выплатай зарплаты ўзнікаюць таму, што часткова вобласць субсідзіруецца з рэспубліканскага бюджэту – сваіх сродкаў на выплату зарплаты бюджэтнікам недастаткова. Другая прычына – не заўсёды своечасова прадпрыемствамі рознай формы ўласнасці пералічваюцца падаткі ў мясцовы бюджэт. А для гэтага таксама ёсць аб'ектыўныя прычыны.

Прагназаваць сітуацыю з выплатай зарплаты за сакавік зараз складана, але абласным упраўленнем будуць прымацца ўсе меры.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Алімпіяды

## Самыя разумныя школьнікі – на Віцебшчыне

***У канцы сакавіка некалькі беларускіх гарадоў прымалі "алімпійцаў". Ліда - прыхільнікаў беларускай і рускай моў, Брэст -замежнікаў (англійская, нямецкая, французская і іспанскія мовы), Мазыр - матэматыкаў, фізікаў і астраномаў, Гродна - біёлагаў і хімікаў, Віцебск - "камп'ютэрных" хлопчыкаў і дзяўчынак, і Бабруйск - географаў ды гісторыкаў.***

У барацьбу за дыпломы першай, другой і трэцяй ступеняў уключыліся дзесяць каманд – Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай абласцей, каманды Мінска, Ліцэя БДУ, Нацыянальнага ліцэя і Ліцэя Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Усяго 941 удзельнік, што прыкладна на сотню менш, чым у мінулым годзе. "Нічога дзіўнага. У сувязі з дэмаграфічнай сітуацыяй, якая склалася ў нашай краіне..." – патлумачыла Алена Мікалаеўна Кішкурна, вядучы інспектар Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі. Зыходзячы з разнарадкі на ўдзельнікаў рэспубліканскіх прадметных алімпіяд 2002 года, найбольшую колькасць удзельнікаў прадставіла Брэсцкая вобласць (127 чалавек), на другім месцы – сталіца (124 чалавекі) і на трэцім – Гомельская вобласць (120 чалавек). А яшчэ вызначыўся Ліцэй БДУ, які адправіў на алімпіяды аж дзевяноста чалавек! Скарбніца талентаў зямлі беларускай! Каманды, у сваю чаргу, камплектуюцца з ліку пераможцаў абласных і Мінскай гарадской алімпіяд – па 2–12 чалавек, у залежнасці ад прадмета. Самыя вялікія – матэматычныя каманды, агульная колькасць удзельнікаў якіх была найбольшай – 118 чалавек. Шмат было ўдзельнікаў алімпіяд па беларускай мове (93), фізіцы (90), дастатковая колькасць – па рускай мове (85), інфарматыцы (89), а найменшая – па астраноміі (18) і іспанскай мове (16).

Да фінішнай прамой першымі прыйшлі каманды Віцебшчыны і Мінска, якія атрымалі па 163 балы (да ведама: дыплом першай ступені – 3 балы, другой ступені – 2 і трэцяй – 1). Віцебшчына ўвогуле вызначылася – заваявала 35 дыпломаў першай ступені, з якіх адзінаццаць па інфарматыцы, шэсць па матэматыцы і чатыры па хіміі, калі, напрыклад, каманда Мінскай вобласці – 25, Мінска – 20. Трымае марку Ліцэй БДУ – дваццаць дзевяць дыпломаў першай ступені. А вось ліцэістам з ліцэя БДПА працаваць і працаваць – на іх ліку пакуль ні воднага дыплома.

Былі і так званыя вызначальныя алімпіяды, але ў розных планах. Алімпіяда па інфарматыцы "вызначылася" адной скаргай ад удзельнікаў.

– У нас існуе механізм апеляцый, што азначае: кожны ўдзельнік, калі ён не задаволены тым, як яго ацанілі, можа падаць апеляцыю ў журы на працягу гадзіны пасля абвяшчэння вынікаў пасля кожнага тура. Журы, у сваю чаргу, на працягу паўтары гадзіны пасля падачы разглядае гэтую апеляцыю. У гэтым годзе была адна апеляцыя на алімпіядзе па інфарматыцы, але, як потым высветлілася, удзельнік сам быў вінаваты – не захаваў змяненні ў сваёй праграме і ў выніку здаў недапрацаваную праграму, – патлумачыла А.М.Кішкурна.

Сёлета "алімпійскі рух" у рэспубліцы скончаны, але наперадзе міжнародныя алімпіяды, з якіх беларуская каманда абавязкова прывязе медалі. Будзем чакаць.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

## Падлеткі Гомельшчыны выказаліся супраць гвалту

***У рамках Міжнароднай дэкады культуры міру і ненасілля ў інтарэсах дзяцей планеты клубам ЮНЕСКА "Дружба" Гомельскага абласнога палаца творчасці дзяцей і моладзі сумесна з абласным аддзяленнем Беларускага фонду міру арганізаваны і праведзены конкурс творчых работ (плакатаў і эсэ) "Скажы гвалту: "Не!".***

Гэта дзве вельмі розныя рэчы – гаварыць высокія, завучаныя з газет словы аб ненасіллі і мірным суіснаванні людзей і дзяржаў на ўроках па грамадазнаўчых дысцыплінах і гаварыць пра тое ж непасрэдна, быццам сам–насам, з дапамогай мастацкіх вобразаў. Акурат такую магчымасць – непасрэдна і самастойна выказацца па зусім дарослай праблеме, што хвалюе сёння ўсё прагрэсіўнае чалавецтва – і атрымалі гомельскія падлеткі дзякуючы праведзенаму конкурсу.

Парадаксальна, ды факт: 14–17–гадовыя тынейджэры (узрост канкурсантаў), на каго часцей за ўсё і мае самы разбуральны ўплыў мас–культура найніжэйшага гатунку, здольныя зірнуць на праблему гвалту цалкам рацыянальна і комплексна, што не заўсёды ўдаецца нават самым прадстаўнічым семінарам і круглым сталам. З трывогай канстатуючы папулярнасць баевікоў, трылераў, мілітарызаваных цацак і камп'ютэрных гульняў (якраз тое, што "ненавязліва" правакуе людзей на гвалт у рэальным жыцці), многія аўтары эсэ выказалі свае прапановы па папярэджанню насілля ў сучасным свеце: палепшыць матэрыяльны ўзровень жыцця людзей, сумесна змагацца супраць агульнай бяды, якой з'яўляецца гвалт, вырашаць канфліктныя пытанні кампрамісным шляхам, істотна абмежаваць паказ гвалтоўных сцэн на блакітных экранах. Калі ўжо гэтакія рэчы гавораць дзеці, то акурат час прыслухацца да іх дарослым, бо ж вуснамі дзіцяці, як вядома, гаворыць ісціна...

На конкурс былі прадстаўлены 36 эсэ і 38 плакатаў. Найбольш актыўны ўдзел узялі ў конкурсе падлеткі з самога Гомеля, а таксама з Буда–Кашалёўскага і Светлагорскага раёнаў.

Адкрыццё выставы "Скажы гвалту "Не!" адбудзецца ў Палацы творчасці дзяцей і моладзі ў канцы красавіка. Аўтараў лепшых творчых работ (9 пераможцаў у намінацыі "плакат" і 25 – у намінацыі "Эсэ") чакае паездка ў Нясвіж і Мір, а Палац творчасці дзяцей і моладзі чакаюць новыя цікавыя падзеі: Школа лідэраў дзіцячых грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў, абласны фестываль фальклорных калектываў, міжнародны інтэлектуальны турнір "Палессе – 2002" і інш., скіраваныя ў канчатковым выніку на выхаванне ўсё той жа культуры міру і ненасілля.

**Мікола ЧЭМЕР.**



*Той, хто ведае цэлае, можа ведаць і яго частку, але той, хто ведае толькі частку, яшчэ не ведае цэлага.*

**ЛУКІЯН.**

Сямейны клуб "Настаўніцкай газеты"

# СЕМ Я

# Нарадзіць, каб... кінуць?

Юрысконсульт 7-й клінічнай бальніцы Кацярына Аксініна запісвае прозвішчы пакінутых бацькамі дзяцей у спецыяльны журнал. За мінулы год іх было больш за 100. Многа ці мала гэта для такога горада як Мінск?

Сказаць складана. Але за кожным запісам – лёс чалавека.

***

Дзеці, ад якіх адмовіліся бацькі, былі заўсёды. Іншая справа – тыя прычыны, якія прымушалі жанчыну пайсці на гэты ўчынак. Гадоў дваццаць-трыццаць таму назад не самай апошняй прычынай быў страх перад грамадскай думкай, нежаданне прывезці бацькам у вёску незаконнанароджанае дзіця. Вядома, і тады існавалі пэўныя матэрыяльныя цяжкасці, але кожная жанчына рабіла свой выбар.

***

"Журнал отказных детей" – люстэрка адной з праяў нашай сённяшняй рэчаіснасці. Але гэта зусім не азначае, што парадзіхі – спрэс жанчыны амаральных паводзін. Для таго, каб адмовіцца ад дзіцяці, яны запаўняюць спецыяльны бланк – форму 9 альбо 9-а, у залежнасці ад таго, ці знаходзяцца ў шлюбе.

У гэтай форме ёсць усе дадзеныя на бацькоў – узрост, сацыяльнае становішча, нават колер вачэй, валасоў, рост.

Многія з гэтых людзей ніколі не стаялі на ўліку ў нарколага, псіханеўролага, урача-фтызіятра. Але тым не менш па нейкіх прычынах дзіця аказалася ў іх жыцці непатрэбным.

***

Самы цікавы момант – узрост мам, калі можна так назваць гэтых жанчын. Ён вагаецца ад 16 да 48 гадоў. Сапраўды, у 48 гадоў, будучы замужам, можна нарадзіць здаровае дзіця і ад яго адмовіцца. Першае дзіця.

***

Кацярына Аксініна лічыць: калі жанчына не жадае ўтрымліваць і выхоўваць дзіця, яна павінна адмовіцца ад яго афіцыйна. Гэта дае магчымасць устанавіць апеку над дзіцем (сумленныя бабулі так і робяць) альбо усынавіць яго. Бо нярэдка ў раддоме бываюць выпадкі, калі жанчына, ледзь апрытомнеўшы ад родаў, тут жа збягае з гэтай установы. І тады даводзіцца шукаць яе з дапамогай міліцыі.

***

У 7-й бальніцы існуе так званае аддзяленне другога этапу. Тут дзецям робіцца генетычная экспертыза, робіцца заключэнне аб агульным стане яго здароўя. Дарэчы, усынавіць дзіця можна з гэтага аддзялення. Але, калі па нейкіх прычынах гэтага не будзе зроблена да моманту перадачы яго ў Дом дзіцяці, у біялагічнай маці застаецца шанц забраць яго. Некаторыя так і робяць.

***

З кожным годам дзяцей нараджаецца ўсё менш. Чамусьці прынята лічыць, што гэтая сацыяльная з'ява мае ў асноўным эканамічныя прычыны. Сапраўды, эканамічнае становішча бацькоў адыгрывае істотную ролю. Але сям'я з дзецьмі заўсёды была менш забяспечанай, чым сям'я без дзяцей. І дваццаць, і сорак гадоў таму назад. Падымаць дзяцей дапамагалі бабуля з дзядуляй, іншыя родзічы, нават чужыя людзі.

У 60-я гады звычайнай лічылася трох-чатырохдзетная сям'я. Сёння гэтыя дзеці выраслі, многія рэалізавалі сябе ў самых розных сферах і самі сталі добрымі бацькамі. Таму нельга адназначна сцвярджаць, што адзінае дзіця, усім забяспечанае, мае шанц на ўдалы лёс.

***

Асабліва горка чытаць у "журнале отказных детей" адмовы мужчын. Многія з іх маюць сталае месца працы, не стаяць ні на якім уліку. Шкада, што дажыўшы да сарака гадоў, яны так і засталіся ў душы зусім юнымі асобамі, якія ні за што не адказваюць. У тым ліку і за сваіх дзяцей.

***

На прыём да юрысконсульта часта звяртаюцца бацькі, якія жадаюць усынавіць дзіця. Што цікава, іх не вельмі шмат. І ніякай чаргі няма. Тут, на тэрыторыі бальніцы, працуе і цэнтр па лячэнню бясплоднасці. Але дапамагчы ўдаецца не ўсім. І тады патэнцыяльныя бацькі ідуць за кансультацыяй і парадай.

У гады майго дзяцінства ў летніку разам са мной адпачывала беленькая дзяўчынка. І да яе прыязджалі чарнавалосыя бацькі, якія хутчэй напаміналі дзядулю і бабулю. Праз шмат гадоў (правінцыя!) я даведалася, што ў дзяўчынкі пры родах памерла маці і бацька проста не змог забраць яе, пятую па ліку. Дзяўчынка вырасла, выйшла замуж, нарадзіла дзяцей. Усё ў яе добра.

Значыць, сапраўды: ёсць выпадкі, калі прыёмныя бацькі могуць забяспечыць дзіцяці шчаслівы лёс.

***

Увогуле 7-я бальніца – гэта цэлы гарадок. З новымі карпусамі, утульным кафэбарам, нават цырульняй "Лэдзі і валацуга". І тут можна сустрэць шчаслівую маці, якая паказвае бацьку ў акно маленькі скрутачак і крычыць: "На цябе падобны!", і жанчыну ў слязах (хто ведае, па чым яна плача), і заклапочаныя сямейныя пары. Тут выходжваюць найскладанейшых дзяцей, тым самым дорачы шчасце яго бацькам, і прымаюць цяжкія роды.

Дваццаць гадоў таму тут пашчасціла пабываць і мне. І ўсе гэтыя гады памятаю, як плакала ў палаце позняя маці, якой не прынеслі своечасова пакарміць дачку. Няўжо за гэты час так ўсё змянілася?

**Ала ШАЎЦОВА.**

Запрашаем да размовы

# Што за чарговай двойкай?

Неяк, чакаючы тралейбуса, разгаварылася са сваёй добрай знаёмай, амаль што суседкай па дому. У роспачы яна сказала: "Хутка канец чвэрці, не ведаю, што рабіць з сынам — у яго тры двойкі па матэматыцы. Кажу яму: "Ты думаеш, што будзе далей?" А ён мне — так абыякава, без усялякага хвалявання — адказвае: "Напэўна, будзе чацвёртая". Я літаральна разгубілася, ён жа здольны хлопец, у мінулым годзе з матэматыкай не было неякіх праблем, а цяпер, у восьмым класе, адкуль што ўзялося? Пачала я ў яго дапытвацца, у чым справа. Ён тлумачыць, што настаўніца нецікавая, усіх вучняў "пад адну лінейку строіць", і ўвогуле - у яго з ёй узаемаадносіны не складваюцца.

Я ў сваёй суразмоўніцы пытаюся: "А што гаворыць наконт вучобы сына сама настаўніца?" Адказвае: "Калі ў сына не складваюцца з ёю ўзаеміны, не ведаю, з якога боку пачаць гэтую размову. Адзін раз паспрабавала ёй растлумачыць, што ён у прынцыпе хлопец здольны, дык настаўніца мяне і не даслухала, а так катэгарычна заявіла: "Чаго вартыя яго здольнасці, калі ён гультай і не ўмее сябе паводзіць на ўроках!"

І напрыканцы нашай размовы я параіла знаёмай звярнуцца да школьнага псіхолага.

Але гэтая сітуацыя міжволі прымусіла мяне паразважаць на тэму двойкі і ўзаемін, што складваюцца паміж настаўнікам і вучнем. Мяне зацікавіла не столькі адзнака, колькі тыя ўсё ж такі хваляванні, у першую чаргу падлетка (хай сабе ён робіць знешне спакойны выгляд), хваляванні настаўніцы, якая ўпарта ставіць двойкі, і, безумоўна, хваляванні маці.

Двойка ў гэтым выпадку — своеасаблівы тупік ва ўзаемаадносіных настаўніцы з вучнем, такая "ціхая вайна", у якой няма, на мой погляд, ні пераможцаў ні пераможаных.

Таму што настаўніца, якая ставіць у дзённік чарговую двойку, відавочна разумее безвыніковасць сваіх дзеянняў. Хто першы ў такой сітуацыі павінен змяніць тактыку сваіх паводзін: яршысты падлетак ці сталы прафесіянальны педагог? Напэўна, усё ж такі педагог. Але ж як складана яму па-новаму, без прадузятасці і стэрэатыпаў паглядзець на свайго вучня, захацець убачыць у ім не толькі дрэннае, але і нешта добрае. Аднак у гэтым новым падыходзе ўся сутнасць педагагічнага майстэрства, уся радасць ад працы з дзецьмі — не прыніжаючы сваёй годнасці прызнацца самому сабе і нейкім чынам вучню ў тым, што памыліўся, нешта зрабіў не так і варта пачаць наладжваць з ім новыя ўзаеміны. Разумею, гэта вельмі няпроста зрабіць, і не кожны рашыцца на такі ўчынак. Але вось адна мая знаёмая настаўніца, што трапіла ў падобную сітуацыю, менавіта так і зрабіла, падзяліўшыся са мною сваім "педагагічным адкрыццём" — як нейкая "сцяна" паміж ёю і вучнямі раптам "разбурылася", і настаўніца адчула спакой і лёгкасць, зразумеўшы, што ўсё ва ўзаемінах з дзецьмі залежыць ад яе самой, стану яе душы, яе кожны раз свежага, непрадузятага погляду на тое, як яны растуць, сталеюць, мяняюцца. І потым яна з радасцю прызналася: "Ведаеце, мне цікава працаваць у школе, кожны дзень ісці ў клас і бачыць твары дзяцей, іхнія дапытлівыя вочы".

Так, выводзячы ў журнале чарговую двойку, спыніцеся, успомніце, у які тупік вы трапляеце, пастарайцеся, шаноўныя педагогі, зразумець, што з вамі адбываецца ў гэты момант, чаму вы такія раззлаваныя...

Псіхолагі часта раяць у складаных сітуацыях ставіць сябе на месца партнёра, спрабаваць глядзець на падзею яго вачамі. Гэта вельмі няпроста, але неабходна рабіць.

Бо ад вас залежыць, ці даць магчымасць падлетку выправіцца, дастукаўшыся да яго пачуццяў, разабраўшыся ва ўсіх ягоных і вашых праблемах, або зрабіць яго "тупіцай", гультаём, у канчатковым выніку — праблемным падлеткам.

Я спадзяюся, што ў сітуацыі, пра якую расказала мая знаёмая, яна знайшла адзіна правільнае выйсце — звярнулася да школьнага псіхолага, і ён ёй дапамог.

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**



У сям'і віцябчанкі Наталлі Рыгораўны Матышавай любімы занятак – вышыўка. А навучыла гэтаму яе маці Валянціна Міхайлаўна Данчанка. Сёння бабуліна рамяство спасцігае ўнучка Зоя. Адна з апошніх яе работ знаходзіцца на выстаўцы ў Францыі.

НА ЗДЫМКУ: Валянціна Міхайлаўна (злева) з дачкой Наталляй і ўнучкай Зояй.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

Падлеткі і соцыум

# "Добрыя дзяўчынкі" ў "дрэннай кампаніі"?..

*"Там, где первый раз сольются губы, там не бывает пошло или грубо, там стыдно при свете раздеться, там юность прощается с детством." Гэтую песню я пачула ля свайго пад'езда ў выкананні падлеткаў. Быццам бы бяскрыўдная і чыстая. Але наступная была ўжо іншага зместу, пошлая і грубая, і пяць дзяўчынак адышлі ад агульнай кампаніі. Я крыху памарудзіла, а потым падышла да іх. Адну з іх я ведала раней, потым пазнаёмілася і з іншымі.*

*Тыя падзяліліся са мной некаторымі сваімі праблемамі.*

— Мы не дваравыя, - гавораць. — Мы пазнаёміліся з юнакамі, і яны прапанавалі пасядзець з іх кампаніяй, паслухаць і паспяваць песні. А ў нас выбару асаблівага няма, вось і згадзіліся.

— А вас не хвалюе, што такія песні пад вокнамі могуць некаму перашкаджаць?

— Яны сказалі, што рэдка на вуліцы спяваюць, толькі калі надвор'е добрае. А ў холад сядзяць у пад'ездах на батарэях, на лесвічных пляцоўках, і вельмі рэдка ў каго-небудзь на "хаце", калі "радакоў" няма. Там практычна не гуляюць і не спяваюць, баяцца.

— На іх выклікаюць міліцыю?

— Так. Адзін раз мы з імі таксама грэліся. А тут нехта крыкнуў: "Шухер!" Пабеглі хто куды: на паверхі, гарышча... Мы крыху замарудзілі, а потым паспелі забегчы толькі на другі паверх і чулі, як па лесвіцы ўжо падымаліся міліцыянеры. Хавацца не было куды, і мы проста выклікалі ліфт і спусціліся ўніз. З намі быў сабака, і калі мы выйшлі, нас забіраць у машыну не сталі — падумалі, што мы выйшлі яго выгуляць. Так нам пашанцавала тады. Больш эксперыментаваць не хочацца. Лепш сядзець ля пад?езда — не так небяспечна, можна паспець уцячы, калі што.

— А як вы рэагуеце, калі пры вас брыдкасловяць?

— Нам не падабаецца, і мы просім іх спыніцца. Але пры сваіх дзяўчынках, з якімі яны сустракаліся яшчэ да нас, юнакі лаяліся, а тыя маўчалі. Таму змагацца нам з гэтым цяжка. Але мы глядзім па абставінах: калі хлопцы пачынаюць лаяцца, спяваць пошлыя песні, як цяпер, мы проста адыходзім. У наступны раз заўважаем, што яны больш стрымліваюцца, менш грубіяняць і больш ветлівыя.

— А бацькі ведаюць, як вы бавіце час?

— Часам даводзіцца нешта прыдумваць, каб менш хваляваліся. Бывае, што некага з нас нават не пускаюць. Тады мы ходзім і просім адзін за аднаго. Нам хочацца гуляць і сустракацца з юнакамі. Але мы думаем галавой і ведаем, што можна дазваляць у такіх кампаніях, а што не. Калі хто-небудзь пачынае чапляцца, дык нас абараняюць юнакі, з якімі мы спачатку пазнаёміліся. Калі іх няма, мы ў кампаніі не затрымліваемся. Для нас гэта нешта часовае, пакольку іншага мы проста пакуль не можам сабе дазволіць. Мы залежым ад бацькоў і не можам кожны тыдзень хадзіць на дыскатэкі, у бары, піцэрыі, кафэ. Таму задавольваемся тым, што маем.

— Але вы курыце, выпіваеце?

— Бывае і такое. Але мы проста спрабуем. Бывае весела расказваць на наступны дзень, што было ўчора. Калі мы "вясёлыя", нам лягчэй знаёміцца з мужчынамі. Але выпіваць яшчэ не ўмеем, таму раніцай бывае вельмі дрэнна. А курым мы ў асноўным толькі пад выпіўку, каб узмацніць эфект.

Гаварылі мы яшчэ пра многае. З чаго я зразумела, што сутыкнулася з тым, як "добрыя дзяўчынкі" ў пошуку знаёмстваў і прыгод трапляюць у "дрэнную (але яшчэ не самую дрэнную) кампанію". Аднак застаецца загадкай: ці будуць мяняць свае паводзіны "блатныя хлопчыкі", каб мець шанц выправіцца і сустракацца з нармальнымі дзяўчынкамі, і ці будуць дзяўчынкі, у сваю чаргу, прыстасоўвацца да дваравых законаў, каб мець магчымасць прыходзіць сюды, альбо знойдуць больш прыстойны спосаб баўлення часу? Ці можна ў такой кампаніі абараніць сябе слабаму полу на вечарынцы з вялікай колькасцю спіртнога і цыгарэт (гэта ў лепшым выпадку, таму што часам бываюць і наркотыкі)? Ці не плюнуць бацькі на іх лёс пасля чарговых скандалаў, калі яны ўжо без дазволу збягуць на вуліцу? Ці хопіць волі і розуму, каб своечасова сказаць "не" і знайсці іншую сцяжынку на жыццёвым шляху? На гэтыя і іншыя пытанні цяпер цяжка адказаць. Дзяўчынкі знаходзяцца ў такім узросце, калі ўсё хочацца паспрабаваць, хочацца прыгод, цікавых гісторый, пра якія можна расказваць на перапынках. А працяг гісторыі можа быць самым непрадказальным: адну на шлях правільны вернуць бацькі, другая пазнаёміцца з добрым юнаком, з якім будзе хадзіць у кінатэатр, катацца на каньках, ездзіць на прыроду, хадзіць у горы, трэцяя не зможа кінуць курыць, пазнаёміцца яшчэ з адной кампаніяй і паспрабуе нешта горшае за цыгарэты, а потым зарэгіструюць чарговы выпадак перадазіроўкі, чацвёртую пазбавяць у пад'ездзе цнатлівасці, і яна "сарвецца", а добра ці дрэнна закончыцца гісторыя з пятай, можна толькі гадаць... Дапамагчы можа кожны: бацькі, сяброўкі, настаўнікі. Галоўнае, своечасова ўбачыць, што патрабуецца дапамога.

У перыяд з 11 да 17 гадоў уласны светапогляд толькі фарміруецца. Падлетак спрабуе зразумець самога сябе і свае магчымасці. Ён мае павышаную ўзбуджальнасць, імпульсіўнасць, на якія накладваецца несвядомая палавая цяга. Вельмі важнае значэнне мае ў падлетка пачуццё прыналежнасці да асаблівай падлеткавай суполкі, каштоўнасці якой з'яўляюцца асновай для ўласных маральных ацэнак. Вось тут падлетак і выбірае, на якія ідэалы яму арыентавацца.

Дапаможам? Альбо сам разбярэцца?

**Кацярына РАБЧОНАК.**

Праблема

# У кватэры не кураць!

***Калі дваццаць гадоў назад курыць пачыналі падлеткі ва ўзросце 16-18 гадоў, дык сёння - з 13-15. Большасць з іх, набываючы гэтую шкодную звычку, праз нейкі час сутыкаецца з усімі небяспечнымі для здароўя наступствамі, выкліканымі злоўжываннем курэннем. Пры гэтым намячаецца тэндэнцыя выраўноўвання колькасці курцоў сярод юнакоў і дзяўчат. Так, у 14-18-гадовым узросце кураць прыкладна 65 працэнтаў юнакоў і 50 працэнтаў дзяўчат.***

Чаму ж дзеці і падлеткі пачынаюць курыць?

Існуе агульнае меркаванне — у гэтым галоўную ролю адыгрываюць сацыяльныя фактары: курэнне - прыкмета сталасці, самастойнасці. Кураць многія дарослыя, з якіх моладзь бярэ прыклад. У кінафільмах, кнігах курэнне выкарыстоўваецца як сродак перадачы пэўнага душэўнага стану: герой хапаецца за цыгарэту ў напружанай сітуацыі, спрабуе з яе дапамогай пераадолець сваю нервовасць або даказаць сваю мужчынскую годнасць... Кураць бацькі і настаўнікі, родныя і знаёмыя, палітыкі і куміры. Падлеткам таксама хочацца здавацца дарослымі, што яшчэ немагчыма для іх у многіх важных сферах жыцця. А вось "пасталець" з дапамогай курэння даволі проста. Падлеткі пераймаюць дарослых, імкнуцца стаць больш самастойнымі, упэўненымі.

І яшчэ адна прычына падахвочвае школьнікаў да курэння. Ім неабходны павага і падтрымка іншых людзей. Многія знаходзяць і тое, і другое дома, у школе, сярод равеснікаў і сяброў. Некаторыя ж з-за шэрагу суб'ектыўных і аб'ектыўных прычын — толькі сярод сяброў. Таму каб не застацца ў адзіноце, гэтыя падлеткі вымушаны падпарадкоўвацца нормам паводзін, прынятым у іхнім асяроддзі. Калі ты валодаеш пэўнымі вартасцямі: добра вучышся ў школе, маеш прыкметныя поспехі ў спорце, разбіраешся ў тэхніцы або палітыцы, табе неабавязкова падладжвацца пад нормы групы. Такіх падлеткаў прымаюць, нават калі яны не кураць. А калі не?..

Такім чынам, напачатку курэнне задавальняе сацыяльныя патрэбы падлетка. Аднак праз нейкі час арганізм прывыкае да нікаціну і патрабуе яго ўсё больш.

Ці варта змагацца супраць таго, каб нашы дзеці станавіліся курцамі, ці можна разлічваць на поспех? Поспех магчымы! Пра гэта сведчыць тое, што значная частка падлеткаў усё-такі не курыць. І многае будзе залежаць перш за ўсё ад таго, якая атмасфера ў доме. Узаемаразуменне, дабрыня і клопат, якія падлетак бачыць у сям'і, садзейнічаюць таму, што кола сяброў для яго з'яўляецца важным, але не адзіна магчымым асяроддзем у жыцці.

Яшчэ задоўга да таго, як падлетак у 7-8 класе возьме ў руку цыгарэту, яму неабходна патлумачыць усё пра шкоднасць курэння. Зразумела, бацькам, якія самі не кураць, лягчэй гаварыць на гэтую тэму. Гэта, аднак, не азначае, што бацькі, якія кураць, могуць адмовіцца ад барацьбы з курэннем: важна, як яны ставяцца да сваёй звычкі. Калі не адмаўляць курэнне само па сабе, а толькі спрабаваць утрымаць ад яго падлетка, то карысці ад гэтага будзе мала. Дык чаму б не аб'яднаць клопат пра здаровае развіццё свайго дзіцяці з намерам кінуць курыць і, магчыма, ісці да гэтай мэты з дапамогай самога падлетка? І, прынамсі, ніколі не прапаноўваць цыгарэт падлетку, не пакідаць іх на бачным месцы. Можна пайсці нават далей і прыняць за правіла - у кватэры не кураць! І падлетак усвядоміць неабходнасць гэтага.

**Людміла КУЛЬМЯНЁВА,**
**выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка.**

Кабінет псіхолага

# Эцюд пра сквапнасць

***Кожны з нас, здаецца, добра ведае, што такое глупства, злосць, сквапнасць, ілжывасць, зайздрасць. Часам мы любім "перамываць костачкі" сваім суседзям альбо знаёмым, абмяркоўваючы тыя ці іншыя іх грахі. Але пры гэтым - парадокс! - нашы ўяўленні пра самыя звычайныя з'явы, з якімі нам часта даводзіцца сутыкацца, не адрозніваюцца асаблівай глыбінёй і не выходзяць за межы пэўных стэрэатыпаў. Псіхолагі ж — людзі ўніклівыя, яны імкнуцца падняцца над звычайным эмпірычным вопытам і... бывае, прыходзяць да вельмі цікавых высноў.***

***Наша сённяшняя сустрэча — з псіхолагам Цэнтра пазашкольнай работы "Ветразь" (Кастрычніцкі раён г.Мінска) Таццянай Уладзіміраўнай КУНІГУЛЬ. Тэма гутаркі — сквапнасць.***

**- Сквапнасць - гэта так уласціва людзям... Здаецца, 99 працэнтаў з нас "заражаныя" ёю.**

– Мы не "заражаныя" ёю, гэта нармальны стан кожнай жывой істоты. Давайце ўспомнім этымалогію, рускага слова *жадность* – гэта *жажда*. Стан смагі знаёмы ўсім. А слова *алчность* – ад *алкать*. Голад... Што ж, таксама нармальная з'ява. Такім чынам, два фізіялагічныя станы – смагі і голаду – мы пазней пашырылі і распаўсюдзілі і на псіхічную сферу. Але сутнасць засталася той жа. Успомнім, як працякае працэс стрававання. Мы нешта ядзім, так? Спачатку – бяром, потым гэта ператтраўляем і абавязкова ў канцы рэштку аддаём. Сутнасць сквапнасці ў тым, што мы нешта ўзялі... а потым нічога не аддалі. І чыста фізіялагічна гэта таксама праяўляецца – у запорах, а таксама мышачных сцісканнях. Сэнс усюды аднолькавы: імкненне штосьці ўтрымаць. Гэтае "штосьці" можа быць розным, нават сваімі патрэбамі, эмоцыямі, пачуццямі... Мне наогул цяжка раздзяліць арганізм і псіхіку – яны вельмі-вельмі цесна перапляятаюцца. І ў нашай мове гэта вельмі ярка, дарэчы, праяўляецца. Успомніце: абсмоктваць костачку і абсмоктваць думку – насамрэч тут ёсць нешта агульнае.

**- Сквапны чалавек імкнецца ўзяць як мага больш?**

– Якраз-такі не. Тое, пра што Вы гаворыце – прагнасць. Гэта ўжо трошкі іншае. А сквапны чалавек нават не хоча браць. Навошта? Ён лепш будзе ўтрымліваць тое, што ўжо мае – свой рэсурс. "Лепш быць аднаму, бо людзі ўзамен нешта будуць патрабаваць ад мяне. А я хачу зберагчы..." – вось гэта сквапнасць. А не *загребущие руки*, як гэта часам разумеецца. Сквапны чалавек якраз-такі схільны мінімізаваць свае патрэбы. Яму звычайна вельмі цяжка звярнуцца з просьбай да іншых людзей, бо ён будзе адчуваць сябе абавязаным. А гэта значыць, што яму прыйдзецца штосьці аддаць узамен. Між тым, ён калісьці сам для сябе вырашыў: "Я буду існаваць у адзіночку. Не патрэбны мне людзі, з імі трэба ўзаемадзейнічаць". А што такое ўзаемадзеянне? Гэта "ты мне – я табе". Так чалавек, вядучай страсцю якога з'яўляецца сквапнасць, паступова адчужаецца ад іншых людзей.

"Там царь Кощей на злате чахнет" – памятаеце? Мараль: як ні ашчаджай, усё роўна будзеш чэзнуць. Калі не аддаеш, не ўзаемадзейнічаеш, калі парваў ніточку сувязі з жыццём...

**- Можа, такі чалавек не хоча ўзаемадзейнічаць, бо баіцца даць больш, чым атрымаць? Ён увесь час будзе падлічваць: колькі я аддаў і колькі мне прыйшло ўзамен?**

– Так. Гэта вечны падлік. І калі такі чалавек хоць трошкі перавысіў магчымасці сваіх рэсурсаў – гэта для яго вельмі балюча. Як ні для каго іншага. Балюча, бо, на яго ўяўленне, ён адарваў ад сябе нейкі кавалачак жыцця.

**- А ёсць тут выключэнні? Напрыклад, дзеля свайго дзіцяці такому чалавеку таксама будзе шкада аддаваць?**

– Ёсць, канешне, выключэнні, наогул – варыятыўнасць можа быць вялікай, але ж мы зараз гаворым пра сутнасць гэтай з'явы. Дарэчы, у дзяцей сквапнасць можна дакладна распазнаць з самага ранняга ўзросту.

**- Як? Я не маю, канешне, на ўвазе банальнае "гэта маё!" - такія паводзіны ўласцівы кожнаму дзіцяці.**

– А вось прыходзіць мама і скардзіцца: "Маё дзіця замкнёнае, дрэнна кантактуе з людзьмі; сядзе сабе ў куточку і гуляе само з сабою... усё быццам бы добра, але ніхто з ім не сябруе..." – прычым такія дзеці самі адмаўляюцца ад стасункаў з іншымі людзьмі.

**- Ну, ёсць жа кантактныя экстраверты і замкнёныя інтраверты, больш арыентаваныя на сябе...**

– Дык вось інтраверты часцей за ўсё сквапныя.

**- Мы ўсе валодаем прыроджанай патрэбай браць. А вось аддае хтосьці з большай лёгкасцю, а хтосьці - з меншай. Калі і як гэта закладваецца? Ад чаго залежыць? Можа, дзеці пераймаюць спосаб узаемадзеяння са светам ад сваіх бацькоў?**

– І гэта таксама. А штосьці закладзена ў дзіцяці фізіялагічна, ад нараджэння. Штосьці, магчыма, передалося з генамі, бо схільнасць да пэўных чалавечых грахоў передаецца і на генетычным узроўні. А сквапнасць – гэта грэх.

...Такія дзеці не ўмеюць прасіць. І не толькі не ўмеюць, але і не хочуць. Калі ім штосьці трэба, яны ствараюць сітуацыю, у якой слова "прашу" стараюцца не вымаўляць. "У мяне зламаўся аловак!" – у адказ цішыня. Зноў: "А ў мяне зламаўся аловак!" – "Зламаўся? Шкада. Ну, нічога, бывае..." І ўсё. Я чакаю, пакуль дзіця папросіць. Такім чынам я спрабую падвесці яго да таго, каб яно пачало дзейнічаць адэкватна. Калі табе штосьці трэба – растлумач сітуацыю і папрасі. Дапамогуць табе альбо не – гэта ўжо іншае пытанне. А ты – прасі, таму што без гэтага ў жыцці не абыдзешся.

**- А ці ёсць лекі ад сквапнасці?**

– Трэба вучыцца аддаваць.

**- Гэта значыць пераступаць праз сябе? Але такі чалавек, напэўна, усё роўна будзе дзесьці ўнутры падлічваць "баланс": колькі даў я і колькі - мне?**

– Так, і мы нікуды ад гэтага не дзенемся. Псіхолагі, напрыклад, іншым разам раяць шлюбным парам: няхай жонка дагаджае мужу, да прыкладу, у панядзелак, а муж жонцы – у сераду. Разумны дагавор – чаму і не?

Сквапным людзям трэба вучыцца прасіць, звяртацца па дапамогу да іншых людзей – словам, больш адкрывацца. Трэба больш праяўляць свае пачуцці, бо сквапныя людзі і іх шкадуюць: як жа, гэта іх рэсурс (так яны падсвядома лічаць).

Такім людзям неабходна памяняць свае звычкі. Яны прывыклі стрымліваць свае эмоцыі – значыць, трэба навучыцца гучна смяяцца, весяліцца. Яны прывыклі заціскацца, эканоміць дзеянні – трэба навучыцца расслабляцца...

Хаця, наогул, кожная чалавечая якасць мае свае плюсы і мінусы. І ў гэтым выпадку: калі чалавек пачне нястрымна расходаваць свае рэсурсы, ён проста знясіліцца. Таму стрымліванне ў разумных межах – гэта самазберажэнне. Справа ў прапорцыях. Можна вельмі дакладна разлічваць свае рэсурсы – і не быць сквапным. Называецца гэта ўжо трошкі па-іншаму – беражлівасць. Зноў жа, тут самае важнае – пачуццё меры...

**Гутарыла**
**Святлана СУБОЦІНА.**

